# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1564) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 4 МАЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.




Ох! Як усе чакалі гэтага свята! Ты ж падумай, унучка, сем тыдняў без кавалка сыра, без малака, а пра мяса няма што і гаварыць. У бедных сем'як мяса было вельмі мала ў тыя часы. Мяса елі толькі на Каляды, Вялікдзень і Сёмуху. Не было чым карміць свіней. Білі адно на год ды і тое малюсенькае, такое, каб хапіла сала і мяса на вялікія святы.

На запускі збіраліся сваякі або суседзі і апошні раз пасля Каляд спраўлялі бяседу. Пілі і закусвалі сырам ды хлебам. Багатыя елі мяса. Пры такой бяседзе спявалі многа песень.

Пасля запускаў пасціць пачыналі ў сераду, таму што да серады выварвалі гаршкі. Пачынаючы ад серады, варылі толькі бульбу, елі яе з вадой, у якой яна варылася; пражылі льняное або канопнае семя; варылі квас з сушаных грыбоў і другія стравы. Але ўяві сабе, дарагая, усё гэта без кавалка сала ці масла. На цэлы пост рыхтавалі дзве бутэлькі алею. Вось як калісьці жылі!..

Постам пралі лён, каноплі і кужаль, а хто меў, то і воўну. Дралі пер'е на падушкі. Хто меў свой лён ці каноплі, то праў свой, а хто не меў, то браў прасці ў чужых людзей, каб зарабіць тую залатоўку.

Пралі, а пасля ўцягвалі ў хаты кросны ды ткалі палатно. Прыгажэйшае было на кашулі, спадніцы, нагавіцы, блузкі, а таўсцейшае — на вопратку. З воўны ткалі дываны. Вопраткай у тыя часы, унучка, называлі паўпальткі сваёй работы. Нават абутак шылі палатняны. Пытаеш, ці калі што куплялі? Так, куплялі, але вельмі рэдка. Беднякі раз на некалькі год купілі туфлі, сукенкі, спадніцы, блузкі, а пальто — то на ўсё жыццё. Таксама і хлопцы: калі купіў касцюм, то ў ім вянчаўся, а нярэдка і хавалі яго ў тым жа касцюме.

Пралі і ткалі толькі да Вербніцы. Перад Вербніцай выкідалі калаўроткі, верацёны ды кросны з хаты. У суботу беглі шукаць вярбу і прыбіралі яе стужкамі. У нядзелю раніцай ішлі яе свянціць у Нараўку, бо ў Семяноўцы не было царквы. Пасля свянчэння вярбы, калі выходзілі з царквы, хлопцы дзяўчат ударалі тры разы вярбой і прыгаварвалі: „Не я б'ю — вярба б'е: слухай мамы, слухай таты — будзь добра".

У панядзелак і аўторак рабілі парадкі на панадворку, а ў сераду, чацвер, пятніцу і суботу — у хаце. Прыбіралі гару, камору, а на канец — хату.

Багачы для прыбірання хаты наймалі дзяўчат з бедных сем'яў. Раз, помню, у чысты чацвер прыйшла Марозіха і кажа: „Маланея, прыйдзі, памый полап і памаж хату, то дам куцці". Я як на крылах пабегла. Што ты думаеш? Жартачкі! Мець трохі куцці на свята! Хата ў Маразоў была вялікая, давялося многа нарабіцца, каб давесці да парадку. Цэлых два дні я там прарабіла, а яна прыносіць мне малюсенькую місачку куцці. Вось табе ўся заплата! Паплакала я і толькі ўсяго.

У красну суботу бяліла і мыла сваю хату, а яшчэ ў той самы дзень трэба было пірог спячы, свянцонку нашыкаваць і занесці да Марозавых, бо туды прыязджаў бацюшка з Нараўкі, каб пасвянціць. Свянцонка калісьці была вялікая. Не такая, як цяпер. Саланіна вараная, саланіна сырая, мяса, хлеб, пірог скаромны (з малаком), сыр, масла, соль, яйка — і ўсяго было многа. Помню, як нашыкуеш, ледзь занясеш. Пяклі яшчэ пірог посны (г.зн. толькі з вадой, без малака) і елі яго ў красную суботу. Елі толькі тыя, хто не жыльнікаваў. Жыльнікаваць пачыналі ў вялікую пятніцу. Рабілі так: вячэралі ў чысты чацвер і аж да разгаўлення — да першага дня Вялікадня нічога не елі і не пілі. Перад вячэрай купаліся, пачынаючы ад найстарэйшага ў сям'і аж да наймалодшага. У ваду кідалі грошы, якімі шаравалі твар, гэта мела запэўніць багацце на цэлы год.

У царкву ў апошнія дні страсной сядміцы ішлі толькі тыя, хто меў час.

У красную суботу, зрабіўшы

(Працяг на стар. 5)

## З ПАБЫЎКІ Ў ТУРНЕ

У Турне Вялікай, што ля самага Буга, у Сямяціцкай гміне, апошні раз давялося мне пабываць у канцы месяца лютага бягучага года. Надбужная даліна тады ляжала яшчэ пад тоўстым пакрывалам іскрыстага снегу. Вёска гэтая па праву называецца вялікай, бо з канца ў канец — звыш аднаго кіламетра.

У той лютаўскі халодны дзень паветра над Турнай Вялікай стаяла чыстае, як сапраўдны крышталь. І я з прыемнасцю любаваўся зімовым краявідам. З левага боку, за драўлянай агароджай, у цені высакаватай елкі, красавалася белацагляная мураванка, адзначаная шыльдам:

**„Пункт унасянення жывёлы ў Турне Вялікай".**

Падумаў я, што варта наведаць гэтага „шклянага бычка", як жартаўліва называюць у нас сяляне спецыялістаў па інсемінацыі. У развіцці жывёлагадоўлі, значыць, і ва ўсёй вясковай гаспадарцы гэтыя людзі-інсемінатары адыгрываюць вельмі ж важную і станоўчую ролю. Штучнае апладненне кароў гарантуе пародзіста і расава чыстае патомства.

Зайшоў я ў гэтую хату. А тут нейкая жанчына сярэдняга ўзросту (пазней аказалася, што гэта Люба Жабюк — жонка інсемінатара) сядзела, схіліўшыся над своеасаблівай капцілкай, перарobленай з лямпы-газоўкі. Яна жалезным „бацікам" наносіла васковы ўзор на яйкі. З пер-

(Працяг на стар. 4)




### НЯМА РОЗНІЦЫ

На ўрачыстым пленуме, які адбыўся ў 30-годдзе БГКТ і „Нівы", многіх узнагародзілі. Каго я ведаю, віншую з узнагародамі і шлю ім найлепшыя пажаданні; зычу, каб гэтыя людзі ўносілі яшчэ большы ўклад у нашу „Ніву".

З таго, што я даведаўся з „Нівы", цешуся, а найбольш мяне цешыць, што наш галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі і пані Вера атрымалі высокія ўзнагароды. Жадаю ўсім працаўнікам „Нівы" далейшых поспехаў у працы, каб наша „Ніва" павялічылася ў старонках і тыражы.

Піша Міхась Хмялеўскі ў артыкуле з пленума: „Вялікія дасягненні мае наш орган „Ніва". Матэрыялы, што друкуюцца на старонках „Нівы", спрыяюць фарміраванню дружных адносін між палякамі і беларусамі". Гэта праўда. Я — таксама паляк. Мая вёска знаходзіцца паміж вёскамі, дзе жывуць беларусы, і ў нас няма ніякай розніцы паміж намі: зыходзімся, вітаемся, гаворым як пападае і па-польску, і па-беларуску, адны ў другіх збіраемся на вечарынах. Я сам больш гавару па-беларуску, чым па-польску, бо мне гэтую мову вылюлялі ў калысцы.

Яшчэ хачу вам падзякаваць, што вы не забылі пераслаць католікам велікодныя пажаданні на іх Вялікдзень. А на праваслаўны Вялікдзень зычу ўсяго добрага ў працы ды ў асабістым жыцці ўсім чытачам „Нівы", рассеяным па свеце.

Э. Шчасновіч






# МАЯ ДУМКА

Moim zdaniem, „Niwa" jest powołana po to, aby służyć mniejszości białoruskiej jako całości, wzmacnianiu jej świadomości narodowej, spójności wewnętrznej. Ważne jest przede wszystkim to, co buduje tę mniejszość. Trudności, na jakie natyka się, trzeba zwalczać, a nie zaś biadolić nad nimi. Pesymizmem robi się tylko złą robotę. Białorusinom, jak mało komu, szczególnie potrzebna jest bardzo silna wiara we własne siły! Potrzeba im umiłowania własnej historii, dumy ze swych przodków, kultu swego języka. To nie ma nic wspólnego z nacjonalizmem czy szowinizmem, bo nacjonalizm to wrogość do innych ludów, natomiast miłość do własnego narodu jest szczytnym patriotyzmem. Nieporozumieniem jest i bałamuctwem traktowanie patriotyzmu i nacjonalizmu jako tego samego.

Zabierając głos na marginesie dyskusji w „Niwie" na tematy narodowe białoruskie trzeba pamiętać stale o tym, że bez wyrobienia szacunku do samych siebie, szacunku i poważania własnej kultury, nie uzyska się szacunku do swego narodu ze strony innych. Zatajanie swej białoruskości musi rodzić pogardę do takich Białorusinów ze strony innych narodowości. Dlaczego mam kogoś szanować, skoro on sam siebie nie szanuje? — to elementarne pytanie.

To prawda, że wszelka ekspansja i nacjonalizm są zupełnie obce Białorusinom, ponieważ naród białoruski nigdy i nikomu nie zagrażał nikogo nie podbijał i nie zniewalał, nie prowadził wojen zaborczych, nie czyhał na niczyje terytorium czy bogactwa. Chcę tutaj powiedzieć, że do tej mniejszości białoruskiej zaliczam i ja siebie (mimo że nie potrafię jeszcze pisać kulturalnym językiem białoruskim, ale „Niwę" czytam regularnie i jestem już do niej na tyle nawykłym, że bez niej czułbym się, jak palacz bez papierosa).

Nie jest mi obojętne, co się pisze na łamach „Niwy". Nie podoba mi się dyskusja, o której już wspomniałem. Nie podoba mi się ona głównie ze względu na jej nie zawsze czysty moralnie wydźwięk, ze względu na osobiste wycieczki jednych przeciwko drugim, wywlekanie różnych spraw osobistych czy rodzinnych. Tak nie czynią ludzie honorowi. Barski, ponoć, nawołuje do poświęceń i nawet życia w ubóstwie w imię ideałów białoruskich, sam zaś opływając przy tym w dostatki... Co ma piernik do wiatraka, kto i komu broni dzisiaj żyć dostatnio?! Dyskutujcie z meritum sprawy, nie plotkujcie sami na siebie! Ja nie znam Barskiego osobiście, ale jego wystąpienia w „Niwie" czytam z ciekawością i uważam, że dobrze one służą sprawom białoruskim. Takie moje postronne odczucie. Nie wolno, by „Niwa" przeistoczyła się w jakiś ring bokserski z wolnoamerykanką, na którym wszelkie chwyty są dozwolone. To demoralizuje czytelnika.

Wartości duchowych, a więc i świadomości narodowej nie da się narzucić siłą. Trzeba tutaj wychowania, zaszczepiania pożądanych uczuć dzieciom swoim i wnukom. Każdy naród spełnia się przede wszystkim we własnej kulturze. Dokucza brak popularyzacji jego kultury, jego historii prawdziwej, nie w postaci amputowanej do jakichś bieżących potrzeb.

Przykładowo mówiąc, w przedwojennej Polsce były znaczne skupiska ludności żydowskiej. I podobnie, jak dla Białorusinów, również i dla Żydów język polski był językiem nie tylko urzędowym, ale i obcym. Za język ojczysty uważali oni hebrajski, do którego byli mocno przywiązani. Taka sytuacja zmusiła ich do wypracowania odpowiedniej taktyki na co dzień, aby nie tracić wartości duchowych własnych i być zarazem w zgodzie z polskim otoczeniem. Z grubsza rzecz tę ujmując, taktyka owa polegała na tym, iż rodzice rozmawiali z dziećmi wyłącznie w języku urzędowym. Trwało to tak długo, zanim dziecko nie poszło do szkoły (czyli do 7 lub 8-go roku życia). Był to okres wystarczający, by dziecko dobrze opanowało język oficjalny. Po tym okresie rozmawiali oni w domu w swoim wyłącznie języku ojczystym. Dziecko, chodząc do szkoły polskiej i będąc w tak zmienionej sytuacji domu rodzicielskiego, nie tylko nie zapominało znowu języka polskiego, ale i zaczynało rozumieć język ojczysty, posługiwać się nim i szanować go. Tym bardziej, że — o czym trzeba koniecznie pamiętać stale — autorytet rodziców oddziałuje na tak małe jeszcze dziecko bardzo silnie. Tak wychowane dziecko żydowskie już potem, doroślejąc, nigdy nie porzucało języka ojczystego, języka swych ojców i dziadów. Ten język wchodził do krwi jego, do najgłębszych pokładów psychiki, i pozostawał w nim na zawsze.

(Працяг на стар. 6)




## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ЙАР

У Мінску пабывала дэлегацыя з таварыства дружбы „ЙАР-СССР". Яе ўзначальваў віцэ-прэзідэнт таварыства дружбы, член Пастаяннага камітэта Усеагульнага народнага кангрэса Йеменскай Арабскай Рэспублікі Алі Абдурахман аль-Бахр.

Госці сустрэліся з кіраўніцтвам і актывістамі Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, мелі гутарку ў выканкоме Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.

Члены дэлегацыі наведалі музеі і памятныя мясціны беларускай сталіцы, зрабілі паездку на мемарыяльны комплекс „Хатынь", пабывалі на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі БССР.

## МАГІЛЁЎСКІ ЛЁН

У Чавусах, раённым цэнтры Магілёўскай вобласці, пабудаваны самы буйны ў рэспубліцы льнозавод з чатырма паточнымі лініямі. Ільносаломка можа прымацца прама з поля без папярэдняй вылежкі. Прамысловае падрыхтаванне трасты праходзіць на працягу двух сутак, што ў дзесяць разоў хутчэй звычайнага спосабу. З выхадам на праектную магутнасць прадпрыемства будзе перапрацоўваць у год звыш дваццаці тысяч тон саломкі і даваць больш чатырох тысяч тон валакна. Земляробы з сямі бліжэйшых раёнаў палавіну вырошчваемай прадукцыі змогуць здаваць саломкай. У выніку да мінімуму будуць зведзены страты прадукцыі незалежна ад умоў надвор'я.

Гэта ўжо пяты ў вобласці льнозавод, дзе прыгатаванне трасты пастаўлена на прамысловую аснову. Цяпер прадпрыемства такой жа магутнасці будуецца ў раённым цэнтры Круглае.

## АДПАЧЫЛІ Ў „БЯРЭСЦІ"

Каля васьмі тысяч сельскіх працаўнікоў папраўляюць штогод сваё здароўе ў санаторыі „Бярэсце", які размясціўся на беразе возера Рагазнянскае Брэсцкага раёна.

Першы корпус санаторыя на 225 месцаў прыняў сельскіх працаўнікоў дзесяць год назад. Абсталяваны ўсімі неабходнымі працэдурнымі кабінетамі, ён прыйшоўся да спадобы адпачываючым. Чатыры гады назад тут быў узведзены яшчэ адзін корпус на 220 месцаў. Гэтыя два корпусы санаторыя злучаны паміж сабой пераходнай галерэяй, якая выводзіць таксама ў закрыты плавальны басейн і сауну. Тут ёсць усе магчымасці для цікавага і змястоўнага адпачынку — кіна- і танцавальная залы, бібліятэка.

## СПОРТ

■ Паспяхова выступілі савецкія барцы вольнага і класічнага стылю ў розыгрышы „Вялікага прыза ФРГ". Яны занялі першыя месцы ў камандным заліку. У саставе савецкай каманды вызначыліся мінчане Віктар Крэйдзіч і Аганес Аруцюнян. Віктар выйшаў пераможцам у турніры па вольнай барацьбе (вага да 68 кг), а Аганес аказаўся першым у сваёй вагавай катэгорыі сярод барцоў-класікаў.

■ Фінішаваў чэмпіянат краіны па баскетболу сярод жанчын. На першае месца выйшлі спартсменкі новасібірскага „Дынама", на другое — ТТТ (Рыга). Бронзу заваявалі баскетбалісткі ЦСКА. Яны перамаглі ў Мінску ў другім матчы за трэцяе месца мясцовы „Гарызонт" 69:67.

■ Дзве вышэйшыя ўзнагароды заваявала мінчанка Святлана Багінская на гімнастычным турніры „Рыга-86". Яна першынствавала на бервяне — 19,60 бала і ў апошнім скачку — 19,55.

## У БЕЛАСТОКУ

У сераду 2 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ, прысвечанае ацэнцы арганізаваных ім мерапрыемстваў і бягучай дзейнасці аддзела. Найбольш увагі было адведзена агляду „Беларуская песня-86". Згодна выказвалася думка, што ў юбілейным годзе нашага таварыства песенны агляд прайшоў на высокім мастацкім узроўні і карыстаўся вялікім зацікаўленнем у грамадстве. Напрыклад у раённым аглядзе ў Беластоку выступіла 7 салістаў, 5 дуэтаў і 6 вакальных калектываў. На жаль, зала не змагла змясціць усіх ахвотных паслухаць родную песню. У будучым трэба клапаціцца пра большую залу.

Прэзідыум абмеркаваў таксама арганізацыйныя справы мерапрыемстваў, якія адбудуцца ў бліжэйшым часе.

1 чэрвеня ў Беластоку будзе праходзіць пад патранатам ПРОН і ТППР святкаванне Міжнароднага дня дзіцяці. У канцэрце выступяць таксама лаўрэаты мастацкіх аглядаў БГКТ.

14-15 чэрвеня з нагоды 30-годдзя нашага таварыства плануецца правесці ў Беластоку Свята беларускай культуры. Прадбачваюцца канцэрты нашых калектываў і іншыя культурна-асветныя мерапрыемствы.

Па прыкладу мінулага года таксама сёлета аддзел плануе ў пачатку ліпеня правесці святкаванне Купалля над ракой Нарвай. На гэты раз намечана ўзбагаціць праграму святкавання ды запрасіць да ўдзелу ў ім некалькі іншых беларускіх мастацкіх калектываў і гуртkоў.

Дзеці і дарослыя самадзейнікі з Беластоцкага аддзела будуць прымаць удзел у аглядзе „Беларуская песня-86" для школьнай моладзі і ў аглядзе драматычных гурткоў БГКТ. І так сёлетнія вясна і лета ў Беластоцкім аддзеле абяцаюць быць багатымі.

**Ян Мордань**




## КОЖНЫ ПАВІНЕН ЗМАГАЦЦА...

Пасля доўгага перапынку ў Парыжы зноў пачаліся гастролі вядомай эстраднай спявачкі Мірэй Мацьё. Газета „Юманітэ" апублікавала артыкул, пераказ якога публікуецца ніжэй.

— Ужо дванаццаць гадоў я не спявала ў Парыжы. За гэты час старалася як мага лепш прадставіць французскую песню за мяжой.

Мірэй Мацьё вельмі задаволена сваёй міжнароднай кар'ерай. Гэта не кожнаму ўдаецца. „Дзяўчына з Авіньёна" бярэ за сэрца ўсіх, хто прысутнічае на яе канцэртах. Праўда, злыя языкі кажуць, што нейкія дзялкі ад мастацтва „зрабілі" яе зоркай. Такое гаварылі і дваццаць гадоў назад, калі яна толькі станавілася зоркай, гавораць і цяпер. Што ж, вакол сапраўднай эстраднай зоркі заўсёды шмат розных размоў, іншы раз самых фантастычных.

— Яшчэ падлеткам я любіла спяваць у бліжэйшай царкве, у школьным хоры. Мой бацька быў мулярам. У сям'і нас было чатырнаццаць дзяцей. Як толькі мама нараджала новае дзіця, старэйшыя даглядалі малодшых братоў і сясцёр, мылі ім бялізну, посуд. Мы жылі ў доме барачнага тыпу і, вядома, без усякіх камунальных выгод. Натуральна, мае хатнія ўмовы не давалі мне добра вучыцца ў школе.

Маімі поспехамі на эстрадзе я абавязана толькі працы. У працы я акрыленая.

На пытанні яе сяброў, як яна ставіцца да выдумак аб ёй у бульварнай прэсе, Мірэй адказвае цвёрда: „Трэба быць заўсёды самім сабой. Мода на людзей хутка праходзіць. Кожны павінен сумленна працаваць. Што датычыць мяне, то я працую з захапленнем, перш за ўсё таму, што займаюся любімай справай. Галоўнае — гэта цвёрда стаяць на нагах, не губляць галавы, не давяраць ліслівіцам і заўсёды імкнуцца да таго, каб не расчароўваць публіку, таму што ў канчатковым выніку яна вырашае, карыстаешся ты поспехам або не.

Нядаўна я ўдзельнічала ў тэлевізійнай перадачы „Размова аб праўдзе". Перадача не простая, і мне здаецца, што я выступіла ў ёй здавальняюча. Магчыма, многія заўважылі, што я ўразлівая да падобных тэм. Але вось адна з тэлеглядачак, пазваніўшы на тэлестудыю, заявіла, што я марыянетка, якая выконвае чыюсьці волю. Гэта няпраўда. Я жыву, змагаюся па меры маіх магчымасцей супраць вайны, расізму, не азіраючыся і не выслухоўваючы нічыіх парад. Ніколі не забуду выказвання Пастэра: „Я не пытаю, у якога бога ты верыш, які колер тваёй скуры. Раскажы лепш аб тваіх перажываннях і пакутах".

Самы вялікі камплімент для Мірэй — гэта калі яе называюць народнай спявачкай. У час гастроляў у Парыжскім палацы з'ездаў яна спадзяецца пачуць яго яшчэ раз.

Як заўсёды, на першы канцэрт прыйшла ўся яе сям'я. Яе вочы сталі сумнымі і вільготнымі: сярод родных не было галоўнага — яе бацькі, які памёр у мінулым годзе.

## БЕЛАРУСКІ ВОПЫТ АХОВЫ ПРЫРОДЫ

У сучасных умовах усё больш змяняюцца ўзаемаадносіны грамадства і прыроды. Калі раней чалавек у асноўным накіроўваў свае намаганні на барацьбу з сіламі прыроды, дык сёння ён больш залежыць не ад сілы, а ад слабасці прыроды і ў яго дзейнасці ўсё больш месца адводзіцца ахове прыроды.

З першых дзён існавання савецкай дзяржавы ахове прыроды прысвячалася вялікая ўвага. Дастаткова сказаць, што У. І. Ленін за час свайго прабывання на чале Савецкага ўрада падпісаў 94 дэкрэты і пастановы, якія датычыліся аховы прыроды. І сёння ў Савецкім Саюзе ў гэтым напрамку вядзецца вялікая работа. У нядаўна вышаўшай у выдавецтве „Беларусь“ кнізе С. Канстанціновіча „Сацыялістычныя адносіны да прыродных рэсурсаў“, Мінск 1985, расказваецца аб метадах і формах працы па ахове прыроды ў Беларускай рэспубліцы. Сам аўтар доўгі час працуе намеснікам старшыні Беларускага таварыства аховы прыроды, і таму ў кнізе добра спалучаецца матэрыял, што быў дабыты з архіваў, з асабістымі назіраннямі, роздумамі, абагульненнямі і прапановамі аўтара.

У кнізе можна выдзеліць два пласты. Першы пласт — гэта апісанне стану важнейшых рэсурсаў рэспублікі: глебы, карысных выкапняў, вады, паветра, жывёльнага і расліннага свету, а таксама аналіз важнейшых напрамкаў дзейнасці па аптымальна-эфектыўнаму іх выкарыстанню. Другі пласт — гэта апісанне метадаў і форм, з дапамогай якіх партыйна-савецкія органы прыцягваюць людзей розных узростаў і прафесій да гэтай працы.

З пункту гледжання першага пласта з цікавасцю чытаюцца такія раздзелы кнігі, як „Шумяць маладыя лясы“, „Слова аб братах нашых меншых“, „Глыбей пазнаваць таямніцы прыроды“. Тут аўтар падрабязна і папулярна апісвае дзіўныя творы прыроды: дрэвы, гаі і іншыя цікавыя помнікі прыроды Беларусі, паказвае, як дзякуючы ініцыятыве і гаспадарскім клопатам працоўных вёскі ўдаецца эфектыўна выкарыстоўваць малыя рэчкі і азёры, як з кожнага гектара лесу збіраць так званы „другі ўраджай“ — грыбы, ягады, дзічызну, мёд, лячэбныя травы. З замілаваннем і трывогай піша Канстанціновіч аб стане малых рэк і крыніц, аб вялікіх і малых парках і садах, што знаходзяцца ў розных закутках рэспублікі.

Спецыяльны раздзел прысвечаны рэдкім гатункам раслін і жывёлы.

У папулярнай форме аўтар расказвае пра розныя тэхналагічныя і тэхнічныя будоўлі, якія дазваляюць эфектыўней выкарыстоўваць багацці прыроды і аберагаць іх ад разбурэння ці знішчэння.

У другім пласце кнігі аўтар паказвае, як арганізоўвалася распаўсюджванне экалагічных ведаў сярод розных катэгорый насельніцтва, пачынаючы ад калгаснікаў і канчаючы кіруючымі кадрамі, аналізуе месца і ролю ў гэтым працэсе газет, часопісаў, радыё, тэлебачання, кіно, сродкаў нагляднай агітацыі. Падрабязна разглядаецца працэс распаўсюджвання спецыялізаваных навуковых ведаў аб ахове прыроды праз спецкурсы ў вузах і тэхнікумах, праз народныя універсітэты па ахове прыроды, навуковыя семінары, сімпозіумы і канферэнцыі. Пры гэтым аўтар справядліва падкрэслівае, што распаўсюджванне ведаў аб прыродзе, аб метадах і формах яе аховы садзейнічала росту культуры і пашырэнню кругагляду працоўных і стала важным звяном у камуністычным выхаванні.

Думаецца, што кніжка гэта можа зацікавіць шырокі круг чытачоў.

**В. Новікаў**

## АДДЗЕЛ БГКТ — КІРУЮЧЫ ЦЭНТР

12 сакавіка г.г. Прэзідыум Галоўнага праўлення арганізаваў сустрэчу са старшынямі аддзелаў БГКТ і сваімі штатнымі працаўнікамі. Мэтай сустрэчы было накіраваць іх дзеянне на больш актыўную рэалізацыю пастаноў X з'езда БГКТ.

Пасля ўступнага слова Янкі Зенюка значнай групе дзеячоў былі ўручаны памятныя Граматы 30-годдзя БГКТ за ўклад працы ў развіццё нашай арганізацыі.

Затым сакратар ГП Віталій Луба выступіў з дакладам аб актуальным стане ажыццяўлення пастаноў X з'езда БГКТ і аб бягучай працы Прэзідыума ў пасобных галінах дзейнасці. Гэтая праца асабліва адчуваецца ў мастацкай самадзейнасці, у літаратурным руху, у арганізацыйных справах, звязаных са стварэннем 15 аддзелаў БГКТ, роля якіх у культурна-асветнай працы беларускага асяроддзя становіцца ўсё больш значнай. Вялікія дасягненні мае орган ГП БГКТ — тыднёвік „Ніва“, які з'яўляецца прапагандыстам ідэй Беларускага грамадска-культурнага таварыства, летапісцам нашага рэгіёна і падзей, што адбываюцца ў сацыялістычнай Польшчы.

— Мы хочам, каб „Ніва“ стала яшчэ больш патрэбная людзям, каб наблізілася да чытачоў і іх спраў, каб закранала самыя важныя пытанні штодзённага жыцця, — гаварыў намеснік галоўнага рэдактара „Нівы“ Мікалай Гайдук. — З гэтай мэтай мы пашыраем яе тэматыку, стараемся прысвячаць больш увагі моладзі — як студэнтам, так і ліцэістам. Будзем больш пісаць пра людзей, працуючых не толькі на вёсцы, але і ў горадзе на прадпрыемствах. Будзем рабіць намаганні, каб павялічылася колькасць карэспандэнтаў „Нівы“, і таму звяртаемся з просьбай у аддзелах і гуртках БГКТ брацца за пяро і прысылаць інфармацыі аб жыцці і дзейнасці арганізацыі, аб добрых і нядобрых справах, аб лю-

(Працяг са стар. 2)

## МАЯ ДУМКА

Sam ja, będąc człowiekiem niemłodym, doskonale pamiętam czasy, kiedy chodziłem jeszcze do szkoły podstawowej i miałem w niej serdecznych kolegów także narodowości żydowskiej. Niczym nie różnili się oni od otoczenia, dobrze mówili po polsku. Natomiast w ich środowisku własnym, rodzinnym czy familijnym, słyszało się tylko język żydowski. To im pozwoliło ocalić osobowość i kulturę narodową; oczywiście, organizowali też swoje biblioteki, naukę kulturalnego języka rodzinnego, imprezy, wydawnictwa. Czasy przedwojenne były na pewno trudniejsze dla mniejszości narodowych, w porównaniu z dzisiejszymi. Kto nie był Polakiem, ten nie mógł awansować. Awans zaś zawsze był wielką pokusą, by porzucić, wyrzec się swego narodu i przejść do narodu państwowego, za cenę stanowiska, wygodniejszego życia, zaszczytów, stania się ważnym itd. Pomimo takich warunków, Żydzi nigdy nie zachowywali się pasywnie, walczyli o swoje, mieli wśród siebie ludzi wybitnych, których zawsze bardzo szanowali — uczonych, lekarzy, nauczycieli, pisarzy, kupców, rzemieślników.

Jasne, że mając własne państwo można łatwo wspierać swoją kulturę i narodowość, bo wszystkie bogactwa państwa służą potemu. My, Białorusini, musimy swą sytuację mniejszości równoważyć większym wyrobieniem, silniejszą wolą, większym zdecydowaniem bycia sobą i tylko sobą. Tym bardziej, że w odróżnieniu od Żydów, nie mamy kompleksu przybyszów z dalekiej Palestyny, żyjemy na swojej ziemi od tysiącleci, tu nasze korzenie.

Bardzo wiele zatem, w sensie pozytywnym dał mi do myślenia tegoroczny przegląd piosenki białoruskiej w samym Białymstoku. To była impreza-gigant, impreza-maraton, z mnóstwem uczestników i publiczności. Sala trzeszczała w szwach, tłumy zebrały się takie, że nie było gdzie nogi postawić. A wszyscy nieziemsko zasłuchani w śpiewanie ze sceny, i bijący wprost szaleńcze brawa nieomal za każdy numer programu! Gołym okiem widoczny był ogromny głód na słowo ojczyste. Co mi się pomyślało wtedy — że taka impreza nie byłaby w ogóle możliwa, gdyby białoruska mniejszość narodowa tutaj, zdaniem niektórych, okazała się być już umierającą, schodzącą do grobu historii.

**Bazyli Backiel, Białystok.**




## СЫН ПАСТУХА

Унукі бегалі па хаце і з баязлівай цікавасцю малых дзяцей прыглядаліся да незнаёмага дзядзькі, які нечакана завітаў у іх спакойную хату, што на вуліцы Браварнай у Мілейчыцах.

— Значыць, вы родам з вёскі Рагачы? — звярнуўся я да Яна Бартнічука, пастарэлага хударлявага чалавека, на твары якога глыбокімі маршчынамі значылася нялёгкае жыццё салдата-бадзягі і селяніна-хлебароба.

— Жылі мы каля карчмы, што стаяла між Мікулічамі і Рагачамі, — пасняіў дзядзька Іван, які ўжо раней прасіў называць яго менавіта Іванам.

Разлучыўся ён са сваёй сям'ёй у 1939 годзе, калі напярэдадні гітлераўскай агрэсіі на Польшчу зноў прызвалі яго ў салдаты. У войску служыў ён зусім нядаўна, ледзь два гады таму назад закончыў прызыўную службу. І цяпер пайшоў зноў бараніць сваю айчыну, хаця яна яму была болей мачахай, чым роднай маці.

Яго сям'і жылося вельмі цяжка. Іх бацька, Сцяпан, каб неяк пракарміць сябе і сваіх дзяцей, штогод наймаўся пасвіць кароў, і сяляне кармілі яго „па чарзе...“

І тут просіцца мне пад пяро адзін красамоўны малюнак, ад якога ніяк не магу я адмахнуцца. Ішоў вось вулічнай дарогай вясковы пастух, дзьмуў трывожна ў свой пастушы рог, страляў звонка са свае пастушай пугі, ды будзіў гаспадароў са сну:

— Хутчэй вароты адчыняй, ды жывіну выганяй, хто не спіць, хто не гультай!

— Вы-га-няй! — па загуменні адгуквалася яму рэха. І сапраўды чарада кароў зноў і зноў папаўнялася новымі красулямі.

Аднойчы цётка Алеся, маладая яшчэ, здаравенькая, але бедная сялянка, у якой „на чарзе“ стаяў пастух, перапыніла яго ля сваёй нізенькай хаткі пад саламянай страхой.

— Я вам, дзядзьку, на абед таўканіцы нарыхтавала! — заявіла яна, трымаючы перад сабой вялікі чыгун.

— Ад такой маладзіцы дык варта паспрабаваць і таўканіцы! — падміргнуў ёй пастух. А „маладзіца“ адвярнула гаршок дном уверх ды страсянула яго над рукамі пастуха. Задыміла гарачай парай бульбяная таўканіца, а пастух чамусьці пачаў смешна падскакваць то на адной, то на другой назе, ды перакідваў гэтую таўканіцу з рукі ў руку, быццам нейкі мячык. У рэшцерэшт паляцела яна ў вулічны пясок. Пастух спыніў свой дзівосны танец і адазваўся з сумам:

— Бачыш, маладзіца, дзе твая таўканіца! — і пайшоў за каровамі з пустой торбаю і без надзеі, што чым-колечы ашукае свой галодны страўнік. І маладзіца таксама не мела нічога іншага, каб даць пастуху ў торбу.

Звяліся цяпер з грамадскага краявіду нашых вёсак колішнія пастухі, толькі ў памяці адыходзячага пакалення захаваліся яны як прывід змрочнага часу і сялянскай галечы.

А Іван Бартнічук выхоўваўся менавіта ў такіх умовах. Нічога тады дзіўнага, што ў іх сям'і хутка прывіліся праграмныя лозунгі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, а ў час гітлераўскай акупацыі пастухова торба Сцяпана Бартнічука часценька пераўтваралася ў торбу сувязнога.

А Сцяпанаў сярэдні сын, Мікалай, адыгрываў даволі важную ролю ў арганізацыі тутэйшага народнага антыфашысцкага змагання. Гэта па яго слядах партызанскай дзейнасці трапіў я і да Івана Бартнічука, які пасля вайны пасяліўся ў Мілейчыцах.

Ён, Іван Бартнічук, мала чаго з усяго гэтага ведаў. Час акупацыі правёў ён часткова ў СССР, а затым апынуўся на гарачых пясках пустыні ў Іраку, Персіі і Палестыне. Крыху пазней ачышчаў ён дарогі ад супрацьтанкавых мін у горным масіве Монтэ-Касіна.

Вернемся, аднак, да 1939 года.

— Найперш дык трапіў я, — расказвае дзядзька Іван, — у чыгуначныя сапёры, у вайсковую часць, якая размяшчалася ў горадзе Легіянова, што пад Варшавай. Не паспелі мы абжыцца, а тут ужо і нямецкая бамбёжка, значыць, Гітлер пайшоў на Польшчу, але нам аб гэтым яшчэ нічога ані слова ніхто не кажа, толькі гавораць, што мы адпраўляемся на манеўры, на вострую вайсковую вучобу. Кінулі нас, памятаю, у Вар-

 

дзях, заангажаваных грамадска. Трэба ўсюды папулярызаваць нашу газету, здабываць ёй новых чытачоў, давесці да таго, каб кожны БГКТовец быў сталым чытачом „Нівы“.

Другі намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня зрабіў інфармацыю аб фінансавых справах ГП, у тым ліку аб аплачванні членскіх складчын, падаючы пад развагу ўдзельнікам сустрэчы справу павелічэння іх з 60 да 100 зл. Паведаміў ён таксама аб актуальным фінансавым плане музейнага фонду і падрыхтоўцы дакументацыі музея, а таксама аб збіранні экспанатаў матэрыяльнай культуры беларусаў Беласточчыны.

Гэта была першая рабочая сустрэча кіраўніцтва ГП са старшынямі аддзелаў, і шырокая інфармацыя аб дзейнасці БГКТ і „Нівы“ аказалася для ўсіх вельмі каштоўнай.

Падчас дыскусіі было закранута шмат істотных пытанняў, вырашэнне якіх дапамагло б у працы праўленняў аддзелаў. Гаварылася і пра дапамогу ГП у арганізацыі ўрачыстых пленумаў і фэстынаў, прысвечаных 30-годдзю БГКТ і „Нівы“, і пра запісы на магнітафонных касетах ды распаўсюджванне беларускіх песень нашых калектываў, і пра выданне зборніка беларускіх песень, вельмі патрэбнага не толькі самадзейнікам, але таксама і школам, і пра ўвядзенне ў некаторыя школы навучання роднай мовы, і пра павелічэнне колькасці аўтарскіх сустрэч „белавежцаў“, і пра шырэйшае выясненне ў некаторых мясцовасцях нацыянальных спраў і паходжання беларускага насельніцтва. Аб гэтых справах гаварылі Міхась Вішанка, Валянціна Ласкевіч, Аляксандр Рафаловіч, Васіль Ляшчынскі, Янка Мордань і іншыя.

Міхась Вішанка пастулаваў таксама, каб беларускія ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы дапамагалі вясковым гурткам у іх культурна-асветнай працы.

Мікалай Байгуз гаварыў аб неабходнасці выязных пасяджэнняў у аддзелах, а Мікалай Алексяюк выказаўся за тое, каб дзейнасці „Нівы“ прысвяціць спецыяльны пленум ГП БГКТ.

У заканчэнні нарады намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Зенюк падкрэсліў:

— Аддзел БГКТ павінен стаць кіруючым цэнтрам і каардынатарам культурна-асветнай дзейнасці ў сваёй мясцовасці, павінен весці гэтую работу супольна з іншымі арганізацыямі, і перш за ўсё асяродкамі культуры. Не павінен ён выпускаць з поля сваёй увагі разбудову арганізацыі, падпіску на „Ніву“, развіццё мастацкай самадзейнасці і г.д. Выясніў ён старшыням аддзелаў, што раённы штатны інспектар ГП накіраваны ў распараджэнне аддзелаў, а не для камандавання імі. У гэтых справах у некаторых не было поўнай яснасці.

**Міхась Хмялеўскі**

## НАСТАЎНІКІ РОДНАЙ МОВЫ

### ВАЛЯНЦІНА ДЗМІТРУК



— Жыву я ў Гайнаўцы, даязджаю да працы цягніком. Выходжу на чыгуначным прыпынку ў Арэшкаве — адсюль вёска ўжо недалёка. Школа наша добрая, з цэнтральным абаграваннем, настаўніцкі калектыў згодны, сардэчны, — сказала нам Валянціна Дзмітрук, настаўніца беларускай мовы са школы ў Арэшкаве, што ў Гайнаўскай гміне.

Навучае яна роднай мове ў класах VI-VII і стараецца, каб усе яе навучэнцы добра засвойвалі матэрыял, прадбачаны праграмай, каб правільна вымаўлялі словы, каб вывучалі правапіс і пісалі без памылак.

У школу ідзе 33 экземпляры „Нівы“, якія выкарыстоўваюцца на ўроках, апрача школьных дапаможнікаў.

Усе школьнікі з Арэшкава вывучаюць родную беларускую мову і бяруць удзел у конкурсах з беларускай тэматыкай, што арганізоўвае Галоўнае праўленне БГКТ супольна з Кураторыяй асветы і выхавання. Сёлета вучні арэшкаўскай школы былі падрыхтаваны Валянцінай Дзмітрук да дэкламатарскага конкурсу „Усё, што сэрцу самае блізкае“, які адбыўся з нагоды XXX гадавіны БГКТ.

Як сцвярджае настаўніца, школьнікі ахвотна прыходзяць на ўрокі беларускай мовы, бяруць удзел у мастацкай самадзейнасці з беларускім рэпертуарам.

Уся педагагічная дзейнасць настаўніцы падпарадкавана асноўнай ідэі — прышчапіць школьнікам замілаванне да роднай мовы і культуры і выхаваць іх на добрых грамадзян нашай Айчыны. З гэтым удаецца ёй справіцца, між іншым, і таму, што атрымала яна добрую педагагічную падрыхтоўку. У 1970 годзе Валянціна Дзмітрук закончыла беларускі клас Педагагічнага ліцэя ў Бельску, а ў 1978 годзе — аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, дзе атрымала дыплом магістра — выкладчыка беларускай і рускай моваў.

Трэба адзначыць таксама, што Валянціна Дзмітрук вядзе ў школе заняткі і па рускай мове ў VI і VIII класах. Можна смела сказаць аб ёй, што яна добры філолаг і здольны педагог.

Валянціна Дзмітрук з'яўляецца апекуном Таварыства польска-савецкай дружбы, у якім налічваецца 54 члены. У школе наладжваюцца мерапрыемствы, якія служаць пашырэнню ведаў аб СССР і ўмацаванню дружбы з савецкімі народамі.

Валянціна Дзмітрук — маці дваіх дзяцей. Сын яе вучыцца ў другім класе, а дачка ў сёмым. Родам яна з Вялікіх Тыневіч.

**Міхась Хмялеўскі**

## НАШ СОЛТЫС

Жыхары Відава цэняць і паважаюць свайго солтыса Аляксандра Сцяпанава. Ён таксама добры гаспадар на сваёй гаспадарцы, як і гаспадар грамады. У мінулым годзе заахвоціў сваіх аднавяскоўцаў грамадскім пачынам зрабіць „кальцо“ для МПК № 3. На гэтае „кальцо“ відаўцы прызначылі фонд салэцтва 350 тысяч зл., самі выпрацавалі 370 тыс. зл. і сабралі складчыны па 500 зл. ад гаспадара — разам 152 тыс. зл. Грамадскім пачынам паправілі дарогі на полі. Цяпер як жа ж добра ехаць „тройкай“ у горад і вяртацца дамоў!

**Андрэй Гаўрылюк**
Фота аўтара



**Старажылы Відава: злева Іван Белаказовіч, 75 год; Афанасій Мацкевіч, 90 год; Пракоп Фірсовіч, 80 год, і на першым плане — солтыс Аляксандр Сцяпанаў.**

шаву, туды, дзе Віленскі вакзал. А там, Божа мой, чыгуначныя рэйкі ўжо канцамі ў неба тырчаць, вагоны ўпоперак пуці, адным словам — проста пекла і годзе! Неяк уладкавалі мы гэты балаган, каб цягнікі маглі праязджаць у Варшаву, каб пастаўлялі ў сталіцу войска і зброю, а тут зноў гітлераўская бамбёжка! Проста ратунку няма! Паявіліся забітыя і параненыя... Тады наш палкоўнік кажа, што будзем адступаць, што ёсць такі загад, што кіруюць нас на Мінск-Мазавецкі...

— Можа, памятаеце, як называўся гэты палкоўнік? — перапыніў я дзядзьку Івана, маючы надзею, што захаваю ад забыцця яшчэ адно прозвішча ўдзельніка гэтага трагічнага змагання.

Іван Бартнічук даўжэйшую хвіліну пакапаўся ў сваёй змучанай памяці, пасля бездапаможна расклаў рукі і няўпэўнена заявіў:

— Памятаю палкоўніка Суліка, але гэты камандаваў намі, здаецца, пад Монтэ-Касіна...

Што ж, няма асноў, каб здзіўляцца, што ў памяці старога чалавека розныя падзеі з яго складанага жыцця пераплятаhіся. Ён восем год прахадзіў у салдацкім мундзіры і добра ведае смак жаўнерскага поту, свіст куляў над галавою, прыгнятальны грукат выбухаў і невыносліваю ды заўжды прысутную небяспеку, калі трэба ўласнымі рукамі дакрануцца да смяротнай „жалязякі“, закапанай у пяску дарогі. Сапёр жа памыляецца толькі адзін раз у жыцці...

Рашыў я праверыць, ці выпадкова не падвяла памяць нашага героя з-пад Варшавы і Монтэ-Касіна.

Аказваецца, што сапраўды ў саставе II Польскага Корпуса, які пад камандай генерала Уладзіслава Андэрса праславіўся баямі ў Італіі, знаходзілася 5 Крэсавая дывізія пяхоты, якой камандаваў менавіта Нікадэм Сулік, спярша палкоўнік, а затым і генерал брыгады.

Нікадэм — гэта па-нашаму будзе Мяфодзій, а генерал брыгады раўняецца генерал-лейтэнанту. І яшчэ варта ведаць, што дывізія, якая знаходзілася пад яго камандай, таму называлася Крэсавай, што ў яе саставе знаходзіліся пераважна даўнейшыя жыхары былых польскіх Усходніх Крэсаў, значыць, у асноўным Заходняй Беларусі, заселенай, як вядома, у большасці беларусамі. Знакам адрознення гэтай дывізіі быў белавежскі зубр.

Івана Бартнічука пад каманду генерала Суліка вяла яшчэ доўгая і складаная дарога, на якой найперш выпала Варшава, затым Мінск-Мазавецкі, а пасля Лукаў і Брэст. Адзін загад пярэчыў другому, а ў канцы і загадваць не было каму, бо афіцэры, асабліва вышэйшыя чынам, недзе прапалі, быццам расплыліся ў паветры.

У Брэсце, пад аховай умацаванняў царскай крэпасці, мелі іх перафармаваць і з разрозненых, заблытаных воінскіх часцей скласці хаця б адну дывізію, здольную да контрудару па ворагу, каб прабіць сабе дарогу на поўдзень, у напрамку Ковеля, бліжэй да румынскай граніцы, якая была адкрыта для ўцякаючай польскай арміі.

— Але Брэст ужо гарэў, яго атакавалі немцы, — успамінае Іван Бартнічук. — І Пінск знаходзіўся таксама ў руках ворага. Проста зайшлі мы ў тупік. А тут яшчэ голад і стома. Аднаго разу, калі зусім збіліся з ног і пакладіся нанач, каб адпачыць, абудзіўся я зранку, гляджу, а навокал ціха, ужо і афіцэры нашыя недзе прапалі. Асталося нас пяцёра: я і яшчэ чатыры салдаты са Шлёнска. І што тут нам рабіць? Выйшлі мы на дарогу, ды ідзем куды ногі нясуць, каб хаця яды нейкай раздабыць, бо кішкі ад голаду болем адгукваліся.

Добра яшчэ, што блукаліся яны сярод палешукоў, мова якіх амаль нічым не адрозніваецца ад цвёрдай рагачоўскай гаворкі. Палешукі давалі Івану Бартнічуку, што было ў іх хатах. А пры ім змаглі пажывіцца таксама і тыя шлёнзакі.

— А не маглі вы кінуць усё гэта ды павярнуць дамоў? То ж тут зусім недалёка вам было! — гавару я гэтаму ветэрану шматлікіх франтоў, успомніўшы, што нашы бацькі ў даваенны час ездзілі ў Брэст на кірмаш. Іван Бартнічук паглядзеў у мой бок з недаверам, як бы першы раз мяне ўбачыў, ды адазваўся спакойна:

— Як гэта пайсці дамоў?! — то ж я быў у мундзіры і меў у руках вінтоўку, а за рамянём — гранаты. І Богам кляўся, што гэтай зброі не выпушчу з рук.

Аднак неўзабаве давялося яму скласці гэтую зброю. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя, якую раскажу я наступным разам.

**Віктар Рудчык**



 

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Усіх нашых мілых чытачоў віншуем са Святам! Жадаем раласнай вясны, сонца і шмат-шмат каляровых, прыгожых маляванак.

На здымку: Аня і Войтэк Гарашкевічы разам са сваёй мамай Данусяй (х. Малышоўка каля Дубровы) малююць вельмі прыгожыя пісанкі. Фота С. Грынявіцкага.

Данута Бічэль-Загнетава

## РАДЗІМА

Радзіма —
нівы, рэкі і бары,
бярозавікам вецер набрыняў,
У Белавежы волаты-зубры,
а вунь мацуе ножкі зубраня.

Радзіма!
Тата, мама і браты,
сястра, бабуля, дзед
і шмат радні
зрабілі ўсё,
каб меў радзіму ты.
Яе высокі гонар не ўрані.

Стварай сваё,
ды беражы, што ёсць.
Дужэй між птушак,
песень і цяпла.

А розум,
дабрату і прыгажосць
табе прырода родная дала.

Ніл Гілевіч

## СВЯТА ЗЯМЛІ

Першы гром быў сёння ўночы.
Дождж да дня шумеў вясёла.
Ранак вытарашчыў вочы,
Як дзіця, глядзіць наўкола.

Што за ноч магло зрабіцца!
Перайначана ўсё чыста:
Поле дыша і дыміцца
Парай лёгкаю празрыстай.

Набрынялыя пупышкі,
Што яшчэ драмалі ўчора,
Ахінаюць голле пышна,
Вабяць яркасцю ўбораў.

Пад праменнем зыркім росы
Зіхацяць на лісцях клейкіх
І дрыжаць, як шчасця слёзы
На густых дзявочых вейках.

Траўка вылезла ў канаўцы,
А ў бары — чуваць за мілі —
Музыканты-выканаўцы
Конкурс майскі аб'явілі.

О зямля!
Ты ўся ў абновах!
Ты ў мільён званочкаў звоніш,
Ты на ста пявучых мовах
Веснай радасцю гамоніш.

Ты смяешся так шчасліва,
Што адразу ясна стала,
Як ты доўга, як цярпліва
Свята гэтага чакала!

Міхась Стральчэня

## ЛАСТАЎКА

Ластаўка высока
Над зямлёй ляціць —
Значыць будзе сонца
Цэлы дзень свяціць.

Ластаўка панізе
Сцелецца-ляціць —
Значыць, будзе хмарна,
Будзе дожджык ліць.

Рыгор Мароз

## АБ ПТУШКАХ

*Вясна ў разгары. Жыццё навокал бурліць. Прыгожая, вясёлая пара года. Толькі радавацца. Толькі жыць.*

*Птушкі за працу ўзяліся. Не думайце, дзеткі, што яны ад таго, каб толькі спяваць. Шмат працы таксама і ў іх. Гнёзды трэба рабіць, дзяцей гадаваць. Сябе і іх пракарміць. Ну і спяваць, вядома, калі хто ўмее.*

*Чалавеку карысць прыносяць. Хоць і малыя яны зусім, але сваю працу ведаюць. Кожная птушачка жыве інакш. Па-свойму гняздо робіць, свой звычай мае. І як умее, так спявае.*

*Узяць вось жаўрука. Птушка палявая. Найхутчэй пасля зімы прылятае да нас. Калі толькі сонейка засвеціць, ён на нагах. Дакладней, на крылах, сваю песню заводзіць. Паднімецца ўвысь, высока-высока, і песня яго аж на зямлю ляціць. Яго і нас цешыць.*

*А кнігаўка? Праводзіць, аж збрыдне: „Кігі-кігі!“ — Ад гнязда адводзіць, ад яек, ад дзетак. Можа і сярод вас, дзеткі, такія знойдуцца, што яйкі выберуць, гняздо разбураць. Паскудная гэта справа — чужы дом разбураць. Птушачка баіцца такіх. Клапатлівая, як кожная маці. Дбае пра сваіх дзяцей, як і ваша маці пра вас. Сама не скаштуе, а ўсё дзеткам нясе. Калі*

(Працяг на стар. 10)

## МАЛЕНЬКІЯ КАЗКІ

### ПЯРЭВАРАЦЕНЬ

Эстонская

Сядзяць селянін з жонкаю на ўскрайку балота пад капою сена і снедаюць. А воўк ля капы, як шчаня, хвастом віляе і вачэй не зводзіць з кавалка хлеба.

Думае селянін: „Жахну яго касою па галаве!“ — і глядзіць на касу. Потым перадумаў: „А якая мне з гэтага карысць?“

Узяў і падаў ваўку на канцы паляўнічага нажа кавалак хлеба. Схапіў воўк хлеб разам з нажом і знік у лесе.

— Вось бяда, знёс мой нож, чым я цяпер касаўё буду вырэзваць? — раззлаваўся мужык.

Прайшоў час, і мужык даўно забыўся пра тое, што адбылося летам. Пайшоў неяк у горад, спыніўся перад крамай і раптам у акне ўбачыў свой нож.

„Во дзіва! Як гэта мой нож тут апынуўся? Пайду запытаю?“

Зайшоў селянін у краму і пытае:

— Скажы, добры чалавек, як гэта мой нож у цябе апынуўся?

Узяў гаспадар нож і адвёў селяніна ўбок.

— Бачыш, — кажа ён, — калі ты ля капы снедаў, выйшаў я з балота пярэваратнем, якім мяне злая вядзьмарка зрабіла, і папрасіў у цябе хлеба. Ты спачатку паглядзеў на касу, а я на тваё горла. Калі б ты, небарака, дакрануўся да касы, я загрыз бы цябе. Тваё шчасце, што ты даў мне хлеба. Так я змог скінуць з сябе чары — воўчую скуру. А нож твой узяў, каб адшукаць цябе і аддзячыць за дабрату. Вось табе нож і срэбра за тое, што ўратаваў мяне. Толькі глядзі, нікому пра гэта не кажы.

Селянін узяў грошы і схаваў за пазуху.

Юхан Кундзер

### БЯСКОНЦАЯ ХЛУСНЯ

Латышская казка

Паслухайце, што я раскажу. Бачыў я, як два смажаныя пеўні ў паветры беглі, хуценька-хуценька беглі жыватамі да неба, а спінамі да зямлі. Кавадла і жорны павольна-павольна Даўгаву пераплылі, а жаба на другім беразе на льдзіне сядзела, два лемяшы з'ела. Было гэта якраз на Іванаў дзень. А тры мужыкі надумалі жывога зайца злавіць. Ішлі яны на драўляных нагах: першы быў сляпы, другі нямы, а трэці і нагою не мог паварушыць. Аднак сляпы першы зайца ўбачыў, нямы кульгаваму сказаў, а кульгавы зайца злавіў.

А яшчэ надумаліся людзі па сушы на караблях плаваць. Плылі яны палямі — па жыце ды ячмені, пакуль на высокую гару не заплылі, дзе і патанулі. Рак, як сабака, зайца ганяў, а на даху карова ляжала, сама туды забегла. І ў тым баку мухі вялікія такія, як у нас козы. А зараз час вокны адчыняць, каб хлусня вылецела.

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

**Міхась Шаховіч**

## ПРЫНЯЛІ

Вялікадня Валік чакаў, як на іголках. У гэтым годзе і ён будзе ў кампаніі. Ужо ні Колька, ні Ванька, ні Віцька не скажуць яму:

— Чаго за намі ў хвасце лазіш? Раўню знайшоў? Якая мы табе кампанія?

Цяпер не тое, што ў мінулым годзе. Тады набіваўся ён сваімі маляванкамі: за адну пакатку на лубку аддаваў Мішку дзве каляровыя пісанкі, што хрышчоны валачобнага прынёс. Зараз ён сам пан і на сваіх правах. Яго цяпер прасіць будуць. Неяк пілуючы круглячкі, што навазілі яшчэ з восені, Валікаў бацька пакруціў у руках невялічкі сухі камель маладога дубчака і адкалупнуў распалавіненую кару.

— На лубок добрая! — падкінуўшы яе пад шпіхерык, заняўся сваёю працай.

З таго часу Валік не адступаўся ад бацькі ні на крок: той да клуні і хлопец за ім, ён каля хлявоў і гэты тут. І, урэшце, настаў той доўгачаканы дзень.

Неяк, зусім перад святам, бацька вынес з каморкі свой сталярскі куфэрчык. Пакруціў у руках, памерыў вокам сухую дубовую кару і, цмокнуўшы некалькі разоў, аддаў правы піле і малатку. Прымацаваўшы адзін канец да тоўстай дошчачкі, другі да драўляных ножак — так, каб гэта ўтварала схіл. Потым паставіў гатовы лубок на падлозе і пакаціў па ім мячык.

— Такі хацеў? — спытаўся бацька.

— Такі, татка, такі! — падскакваў ад радасці Валік.

— Ну і добра. Прыйдзе Вялікдзень, тады пагуляеш, — і бацька вынес лубок у камору.

На Вялікдзень, калі сонейка толькі-толькі зайграла на небе, Валік ужо быў на нагах.

— Ты чаго ў такую рань? — здзівілася маці. — Ану ў ложак!

Але бацька ведаў, у чым справа, і адразу падаўся за дзверы.

— Трымай! — вярнуўшыся, падаў хлопцу лубок. — Ну, прымуць цябе цяпер у кампанію?

— Прымуць, пэўна, што прымуць! — радасна засмяяўся той. — Нават Мішка такога не мае, а ў Ваські ўжо ў мінулым годзе разваліўся.

Валіку было вядома, што без святочнага снедання ніхто яго з хаты не выпусціць. Такі ўжо звычай у гэты дзень.



Урэшце забразгацелі талеркі. На стале закрасавалася пасха. Бабуля з матуляю пачалі падаваць на стол яйкі, каўбасу, мяса, сыр, масла, пірог і чаго яшчэ толькі!

— Іван, ты гаспадар. Табе і пачынаць пасху, — падала бабуля нож бацьку... За мае памяці ў гэты дзень не рэзалі, а ламалі.

Разгаўляліся, зычылі сабе ўзаемна здароўя і шчасця. Валіку не сядзелася. Раз-пораз зыркаў у акно і думаў: „Як гэта дарослыя могуць так доўга есці?“

— Пачакай, кампоту яшчэ выпі! — сказала матуля, заўважыўшы, што за сталом яму не сядзіцца.

— І валачобнага дамо, — сказала бабуля і ўстала ад стала. Яна прынесла з каморы кошык з крашанымі яйкамі.

— Бяры. Толькі на выбіткі ў першы дзень свята не бійся! Трэба шанаваць звычаі. — І бабуля выбрала яму пару самых прыгожых крашанак.

— А гэта ад мяне, — падаў тата дзве прыгожыя пісанкі.

Матуля таксама дала валачобнае і наказала:

— На касцюм зважай, не парві, не запэцкай!

Ён ішоў вуліцаю з лубком у руках, і яму здавалася, што ўсе толькі на яго і глядзяць.

За вёскаю, на старым гасцінцы, яшчэ нікога не было. Валік паставіў свой лубок, як навучыў яго бацька, і пакаціў па ім яйка. Тое, набраўшы хуткасці, скацілася па схілу і пакацілася па каляіне далёка-далёка.

— Фююуу! — пачулася за плячыма.

Валік азірнуўся. Над ім стаяў Мішка са сваёй кампаніяй.

— Твой? — і пастукаў па лубку наском чаравіка.

— Ага!

— Новы? — Мішка пазіраў то на свой, то на Валікаў.

— Татка ў чацвер зрабіў, — не без задавальнення сказаў Валік.

— Пакажы! — Мішка пакаціў яйка па Валікавым лубку. — Здорава! Качаем? — запытаў ён хлопцаў.

— На маім? — недаверліва спытаў хлопец.

— На тваім! — адказаў Мішка і свой лубок паклаў збоку.

— Качаем! — крыкнулі хлопцы.

Мішка, сабраўшы ўсіх вакол сябе, прыпомніў правілы гульні.

— Першы раз качаем, каб устанавіць чаргу. Чыё яйка найдалей закоціцца, той будзе першы. Чыё бліжэй, той за ім і гэтак далей. Калі маё яйка стукне ў Васькава, дык ён мне адно вінаваты, а калі Васькава ў маё, тады я яму. Усё так, як у мінулым годзе. Памятаеце?

— Так! — крыкнулі.

— Твой лубок ты і пачынай! — Мішка тузануў Валіка за рукаў.

Пакацілі. Валіку выпала чарга за Віцькам. За ім Мішка, потым Колька і Сцёпка.

Беручы дрыжачаю ад хвалявання рукою з зямлі яйка, Валік цешыўся на думку: „Прынялі мяне ў кампанію...“

*(У скарачэнні)*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 344041, г. Ростов-на-Дону, пер. Вёшенский, 2. Гугниной Свете. 7 клас.

* ✲ *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Искра, д. 59, кв. 54. Бурмистровой Тане. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, Первый угловой проезд, д. 6. Черненкова Наташа. 5 клас.

**(Працяг са стар. 9)**

## АБ ПТУШКАХ

*бяда яе спаткае, сваім крылом дзяцей захіляе.*

*А маленькая ластаўка? Суседка з-пад даху. Колькі разоў абярнуць трэба? Колькі праляцець з матэрыялам, каб гняздзечка зляпіць? А потым, сям'ёй абзавёўшыся, усіх пракарміць! А малыя безупынку ядуць! Аж надыйдзе час, калі выляцяць усёй сям'ёй, сядуць на правадах. А іх маці пэўна, радуецца.*

*А бусла ўзяць. Вялікая птушка, а гнязо робіць як найвышэй — на клуні або на таполі. Ён толькі чакае нашай дапамогі. Зацягні барану, а рэшту даробяць яны ўжо самі. І сваім „кля-кля-кля“ абвясцяць, што яны тут жывуць. Толькі ім усё цяжэй жыць. Сапраўдны крызіс: жаб усё менш: прапала на сенажацях вада — і яды не хапае. Паблізу чалавека можна іх яшчэ сустрэць. А чаму так высока гнязо? Можа, таму, каб лягчэй было стартаваць у далёкі вырай?*

*А шпакі? Мусіш сам ім домікі рабіць або тату папрасі, каб дапамог. Любяць шпакі ў нашых доміках жыць. Трэба ім памагчы.*

*Ёсць сярод птушак і такія, што любяць чужы домік заняць: як верабейка, ці такія, што ў чужое гнязо сваё яйка падкінуць, як зязюля. Нават кукаваць лянуецца. Даўней, бывала, запытаеш, колькі год пражыву, дык яна кукуе і кукуе. А цяпер — лянуецца. Раз-два кукане і ўсё. А можа і яна часу не мае?*

*Ды і вам, дзеткі, мусіць збрыдла мяне слухаць, дык бяжыце гуляць.*

## Вучнёўская творчасць

**Думкі пра вясну вучняў 4 класа школы ў Орлі, якія вывучаюць беларускую мову з настаўніцай Аннай Шыманскай.**

### ВЯСНА

*На вербах — першыя коткі,*
*На лузе — першыя кветкі.*
*А ў лесе птушкі спяваюць,*
*Вясну вітаюць.*
*А вясна ідзе ўжо*
*праз палі і лясы.*
*Усю прыроду абудзіла,*
*У гародах кветкі засадзіла.*

**Анэта Стэльмашук**

* ✲ *

*Адыйшла зіма.*
*Прыйшла вясна,*
*Птушак прывяла,*
*Кветкі пасадзіла.*

*Рана сонца ўстала,*
*Вясну прывітала.*
*Жаўранак заспяваў,*
*Зязюля закавала.*

**Януш Зінчук**

* ✲ *

*Дзьмухнуў цёплы вецер,*
*сонейка раней устала,*
*зацвілі падснежнікі*
*жаваранак абвясціў:*
*— Вясна!*
*Вясна птушак прывяла,*
*Кветкі засадзіла,*
*Свет зазеляніла*
*і дзяцей развесяліла.*

**Міраслаў Бобік**

* ✲ *

*За лесам чакае вясна,*
*каб зіма хутчэй пайшла,*
*як знудзіцца зіме на зімне*
*то й вясна хутчэй*
*да нас прыйдзе.*
*Дождзжык цёплы ліне,*
*кветкі вырастуць да кален,*
*салавейка заспявае*
*дзень даўжэйшы будзе.*
*Добра вясне разам з намі,*
*Бо мы яе так доўга чакалі.*

**Ася Шайкоўская**

* ✲ *

*Прыйшла вясна,*
*Кветкі засеяла.*
*Птушкі ўжо спяваюць*
*І вясну вітаюць.*
*Вясна, пані зялёная,*
*Прыгожа прыбраная,*
*І кветкі каляровыя.*
*А лісточкі зялёныя.*
*На вербах коцікі,*
*На бярозах — лісточкі.*
*Сонца свеціць прыгажэй*
*І вельмі радуе дзяцей.*

**Агнешка Кальская**

* ✲ *

*Да нас прыйшла вясна.*
*Сонца нам прынясла.*
*А на вярбе і на бярозе*
*Пупышкі выпусціла.*

*Лугі будуць прыгожыя*
*ад кветак і травы.*
*А ў нас каля дома*
*Зацвітуць сады.*

*Сонейка рана ўстала*
*І ясней заблішчала.*
*А цёплы ветрык абудзіўся*
*і з сонейкам прывітаўся.*

**Роберт Нівінскі**

## АДГАДАНКА



**Замалюй палі, азначаныя кропкай і тады даведаешся, што намалявана на гэтай карцінцы.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok ul Wesołowskiego 1

## ЗЛЫ САБАКА

Прыйшоў задрыпанец да знаёмага ў госці.

— Добры дзень, дружа! Што гэта ў вас на парозе чорнае ды валахатае ляжыць?

— А як жа вы прайшлі? Гэта ж вельмі злы сабака!

— Цьфу ты, а я аб яго ногі выцер!

## АБРАЗІЎСЯ

Жонка да мужа:

— Ты зноў, Пятро, уначы праз сон нешта гаварыў?

— Дык няўжо ж мне і ўва сне слова нельга сказаць?!

## ТОЛЬКІ ШЧЫРА

Ніводнай памылкі, — сказала настаўніца, праверыўшы хатнюю працу вучня. — А скажы шчыра, твайму бацьку хто-небудзь дапамагаў?

## ЗАЧАДЗІЛА НЯЎЧАСНА

Паспрачаліся дзве суседкі.

— Мае куры толькі кудахчуць дома, а нясуцца ў цябе!

— А ты сваім гусям вады не наліваеш, яны бы прывязаны да майго калодзежа!

— А твой Рабка толькі спіць у будцы, а абодва двары абгаўкавае мой Барбос!

— А мой мужык, як твой Барбос... Ой ліханька, гарэлым пацягнула з кухні! Ну, я табе яшчэ дакажу-у-у! — закрычала суседка, бегучы да сваёй хаты.






## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 3 мая г.г. а 18-ай.

### ВЯСКОВАЯ ПРЫГАЖУНЯ

**У блузачцы ў палоску, з вачэй глядзіць вясна —**
**На ўсю ты нашу вёску адна, адна.**
**І хлопцы глухаваты ды за табой, табой,**
**Як пеўні, што ля хаты, вось тут развяжуць бой.**
**Прыпеў: Ах ты, Тася, Тася, Тася**
**Ты — агонь, ты — мароз!**
**Адкуль жа ты ўзялася?**
**Скажы мне: чый ты лёс?**
**Сцяпан на скрыпцы грае, Іван у бубен б'е,**
**Аж сэрца замірае, калі Антось пяе.**
**Не церпіцца Ігнаську такое адпаліць,**
**Каб кінуць цень на Ваську і Сцёпку засланіць.**
**Прыпеў: Ах, ты Тася...**
**Як Тася на вячорках пачне спяваць, скакаць —**
**Злятаюць з неба зоркі, а хлопцы аж гараць.**
**І не пяе салоўка і вецер не шуміць**
**І Тася з хлопцаў лоўка вяроўкі можа віць.**
**Прыпеў: Ах, ты Тася...**



**Некаторыя не столькі варацца ў сваім саку, колькі вараць у ім іншых.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Гэта было напярэдадні 200-гадовага юбілею з дня нараджэння Івана Катляравскага. Паэт-пачатковец прынёс у рэдакцыю газеты верш, прысвечаны гэтай даце. Пазнаёміўшыся з гэтым вершам, газетчык сказаў:

— Верш вельмі слабенькі, са шматлікімі граматычнымі памылкамі. Папрацуйце над ім добранька і прынясіце, калі будзем адзначаць 300-годдзе Катляравскага.

Аўтар верша горача запэўніў:

— Абавязкова прынясу!

*

Адзін багаты амерыканскі турыст захацеў падняцца ў горы. Калі праваднік прывязаў яго вяроўкай у звязку, ён дастаў кашалёк і сказаў:

— Не трэба мяне прывязваць. Я заплачу наперад.

*

— Радавы Дзюпон, навошта вы ідзеце ў сталовую з вінтоўкай?

— Пане капітан, я не хачу яшчэ раз застацца без кампоту!

## БЕЗ ЗАКУСКІ

— Чаго ж ты, Кастусь, учора такі п'яны быў?

— Ды закусіць не было чым.

— А што — грошай на закуску не хапіла?

— Не, зубы павыбівалі.

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### ГАСЦІНЕЦ ЖЫВЁЛАГАДОЎЦАМ

Новая электрабляялка створана ў лабараторыі Навуковага інстытута „Задрыпжывёлпрылада". Гэты апарат дае магчымасць авечкам бляяць вясёлымі і радаснымі галасамі, калі іх стрыгуць.

### БАНТОН

Непрыдатныя да яды рэшткі ежы, такія, як рыбныя косткі, косці, храсткі, валаскі і г.д. палажыце на абрус ці цырату, а найлепш — на талерку суседа, каб яны не перашкаджалі есці далей.







## Курёзы

### БРАЗІЛЕЦ ПАНЯВОЛІ

Грамадзянка Аргенціны Роза Бішон, знаходзячыся на апошнім месяцы цяжарнасці, вымушана была тэрмінова вылецець да мужа, які быў у Нью-Йорку. І, як на тую бяду, іменна ў час палёту ў яе пачаліся роды. На борце паветранага карабля ні ўрача, ні нават медсястры не аказалася. Тады старшы пілот запрасіў па радыё дазволу на пасадку на аэрадроме аднаго з гарадоў Бразільскай Амазонкі. Дазвол быў атрыманы, але дзіця паспела нарадзіцца яшчэ ў самалёце, калі толькі-толькі прызямліліся. Стан здароўя хлопчыка, якому пасажыры сумесна далі імя Мауро, быў задавальняючы, маладая маці таксама адчувала сябе нядрэнна і гатова была адразу ж ляцець далей. Але насупераж стаў... закон.

Аказваецца, дзіця, што нарадзілася на тэрыторыі Бразіліі, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці сваіх бацькоў, аўтаматычна прымае тутэйшае бразілійскае грамадзянства. А паколькі маленькі Мауро з'яўляецца такім чынам бразільцам, то ўлады, перш чым дазволіць яму разам з маці працягваць далейшы палёт, павінны спецыяльна вырашыць асобнае пытанне аб яго выездзе з тэрыторыі Бразіліі па ўсёй форме, з выдачай на рукі належнай візы.

Колькі ні прасіла Роза Бішон мясцовых чыноўнікаў пайсці насустрач яе пажаданням і адпусціць з нованароджаным сынам, нічога не дапамагло. Самалёт на Нью-Йорк паляцеў без яе, а яна засталася жыць у гасцініцы, дзе прабыла каля трох тыдняў, пакуль бразільскія ўлады зрабілі ўсе запісы і падрыхтавалі ўсе неабходныя дакументы на немаўлятку.




**Каб падняцца на новую вяршыню, трэба спусціцца са старой.**